# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (466) | ГОД X | 31 СТУДЗЕНЯ 1965 Г. | ЦАНА 60 гр.


## БЕЛАСТОЧЧЫНА У ЛЮСТЭРКУ

### ЧЫМ МЫ БАГАТЫ

Урачыста, як звычай кажа, развітаўшыся са старым годам, варта зірнуць у сваю кладоўку: чым мы багаты? З чым добрым увайшлі ў апошні год бягучай пяцігодкі?

**На працягу 1964 года Беласточчына пабагацела на 250 мільёнаў злотых. Яе бюджэт на бягучы год перавышае суму 3-х мільярдаў.** Аграмаднае багацце, але яго замала, каб пакрыць усе патрэбы ваяводства. Аднак няма чаго сумаваць, пастаянна ідзем угору, багацеем. **У 1964 годзе яшчэ больш замацавалася ўся наша гаспадарка. На звыш 8 працэнтаў у параўнанні да папярэдняга года ўзрасла прадукцыя.** Людзі штораз лепш працуюць, бо прырост прадукцыі здзейсніўся ў асноўным дзякуючы лепшай, больш выдайнай працы.

Толькі вось заўзялася на нас засуха. Ужо трэці год падрад выпальвае нам збожжа і сенажаці. Сабралі мы ўсяго ледзь па 10 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара, а скромна планавалі сабраць 15 цэнтнераў. Асабліва не ўдалася нам ярына.

Вопыт апошніх гадоў вучыць, што больш пэўнымі з'яўляюцца ў нас азімыя культуры. Таму настаўляемся цяпер на тое, каб больш сеяць жыта і азімай пшаніцы, а менш аўса. Гэтакі напрамак прыняла ў сваёй бюджэтнай пастанове на 1965 год Ваяводская рада народовая. Пастанова прадбачвае, што сяляне Беласточчыны павінны сабраць з аднаго гектара 15 цэнтнераў збожжа, 160 цэнтнераў бульбы, 280 цэнтнераў цукровых буракоў і 32,5 цэнтнера сена. План зроблены без фантазёрства. Яго асновай з'яўляюцца сапраўдныя магчымасці нашых сялян. Лікі гэтыя шмат скрамнейшыя ад паказальнікаў, якія для Беласточчыны прадбачваў пяцігадовы план. На жаль, не ўдалося нашым сялянам падняць сваёй гаспадаркі да ўзроўню, які ўказвала пяцігодка, але не яны, не сяляне, выключна вінаваты ў тым.

Вядома, што ўсё яшчэ валачэцца за намі цень даваеннай Польшчы «Б». У сям'і ваяводстваў Беласточчына паўзе заўсёды дзесьці ззаду. **План на бягучы год стварае асновы, каб думаць, што наступяць змены.**

Эканамісты падлічылі, што прамысловая прадукцыя ў краіне павялічыцца ў 1965 годзе на няцэлых **8 працэнтаў** у параўнанні да мінулага года. У **гэтым жа часе развіццё прамысловай прадукцыі на Беласточчыне будзе больш як на два разы выпярэджваць агульнакраёвыя паказальнікі.** Перастанем таптацца ў хвасце.

Аднак не прамысловасць, а сельская гаспадарка застаецца ў нас надалей у цэнтры ўвагі, з'яўляецца гэтым вокам, якое трэба сціпла сцерагчы. Яна — асноўнае багацце Беластоц-

(Працяг на стар. 4)



Да трактавай дарогі. Фота Л. Майсеюк

## НІНА ТАРАС
# ЗЯМЛЯ МАЯ

Зямля мая, яна жывая,
З пражылкамі блакітных рэк,
Яна жыццё ў сабе хавае,
Якое не замрэ павек.

Ёсць у зямлі свае дыханне,
І сэрца палкае ў яе,
І радасці, і наракканні,
І беды горкія свае.

Яна цяпло, пяшчоту любіць
І ласку чалавечых рук:
Хто з любасцю зямлю галубіць —
Яна засцеражэ ад мук,

Аддасць усё, што ў нетрах тоіць,
Дабром сустрэне, праявдзе
Таго, накорміць і напоіць
І не пакіне у бядзе.



# ЭХ ТЫ, НАШ ЛЕС

Позным летам ішоў я скраблякоўскай дарогаю да Валілаў і неспадзявана заўважыў пагарэлы маладняк. Пакірачанае голле, ад якога нясло пахам пажарышча. Шкада маладога, мо' дваццаціградовага хвойніка! Мяне агарнула злосць на тых няўважлівых людзей, якія сваёй неасцярожнасцю начаўплі пажару.

Я вінаваціў неасцярожных. Пазлаваўшы ўволю на бязлюднай сцежцы пайшоў далей. Замест злосці ў мяне паявілася нейкае злаславае задавальненне, і я падумаў:

— Спалілі лес, на другі раз будуць ведаць, што з агнём няма жартаў...

Аб тым, што мая злосць была прастадушнай і наіўнай, я зразумеў толькі ўчора, калі даведаўся, што пажары лесу ў прываліліаўскай аколіцы здараюцца часта. Няйначай, спецыяльна хтосьці падпальвае, але, як гаворыцца, не злавіў за руку — не крычы, што злодзей!

Заўсёды гараць прыватныя лясы гаспадароў, і гэты факт пралівае пэўнае святло на прычыны падпалаў. Справа ў тым, што гаспадар не мае права рубаць свайго лесу столькі, колькі яму хочацца. Ёсць строга ўстаноўленыя нормы вырубкі і, каб абмінуць, абысці тыя нормы, відаць, сёй-той ухітрыўся падпальваць лес. Апаленыя хвоі ляснік дазваляе вырубваць усе да адной і пераважна на кошт надлясніцтва арганізуе новую пасадку. Таго і трэба!

На Беласточчыне трэцяя частка лясоў з'яўляецца прыватнай уласнасцю гаспадароў. Гэтыя, так сказаць, гаспадарскія лясы займаюць плошчу амаль дзвесце тысяч гектараў. Для іх ёсць устаноўленыя леснікі, якія маюць пад апекаю кожны каля двух тысяч гектараў — у два разы больш, чым леснікі ў «казённых» борах. Прытым гаспадарскія лясы часта раскінуты ў розных мясцінах, на дзесяткі кіламетраў ва ўсе бакі. Будзь разумны, ляснік, дапільнаваць такога лесу... Не дапільнуеш!

Гаспадарскія лясы гібеюць, гэта праўда. Падлічана, напрыклад, што ў дзяржаўных лясах сярэдні гадавы прырост драўніны даходзіць да **чатырох** кубічных метраў (фэстметраў) на адзін гектар, а ў гаспадарскіх лясах — уся-

(Працяг на стар. 5)




**К. Янкоўскі: ЗМАНЛІВЫЯ МІЛЬЁНЫ.**

**К. Пятэльскі: АДЗІНОЦТВА З НЕАБХОДНАСЦІ.**

**І. Чыквін: ЦУКЕРКА.**

**Д. Шатыловіч: РАДЗІМА.**

**А. Свісёк: ПРЫВІДЫ НАСТАЎНІКА.**

**А. Казберук: ПАДЛЯШША І ЖАВАРАНАК.**

# ГОЛАС З ВАРШАВЫ

Пасяджэнне Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору — адбылося дакладна ў дваццатую гадавіну вызвалення сталіцы Польшчы з-пад гітлераўскай акупацыі. Гэтае супадзенне было не прыпадковым, яно падкрэслівала элементы гістарычнага сімвалу: перамогу свабоды і міру.

Калі ўжо гаворым аб гадавінах, дык варта ўспомніць, што пасяджэнне Палітычнага кансультатыўнага камітэта адбылося якраз у дзесятую гадавіну ўступлення Заходняй Германіі ў члены Паўночна - атлантычнага пакту. Гэты акт 10 год назад азначаў парушэнне Патсдамскага дагавору, у якім усе пераможцы над гітлераўскім фашызмам урачыста абавязаліся не дапусціць да адраджэння мілітарызму ў Германіі. Увядзенне Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў НАТО азначала, такім чынам, патаптанне заходнімі дзяржавамі супольных прынцыпаў. 10 год назад, таксама ў Варшаве краіны-члены Варшаўскага дагавору выразна ўказалі на небяспечнасць гэтых крокаў для Еўропы. Гісторыя пацвердзіла тадышнія прадбачанні.

Заходняя Германія за кароткі перыяд стала найбольш небяспечнай для міру палітычнай і мілітарнай сілай у Еўропе. Хопіць сказаць, што пры дапамозе сваіх заходніх саюзнікаў бундэсвер мае найбольшую і найлепш узброеную армію ў НАТО.

Заходняя Германія са сваёй ідэалогіяй стала той краінай у НАТО, якая на свой капыл пачала фармаваць увесь заходні саюз. Асабліва гэта выразна відаць на прыкладзе патрабавання даць ім атамную зброю і поўнае права самім вырашаць, калі яе прымяніць. Выяўлены нядаўна план Трэтнера паказаў свету, да чаго б давяло адданне Заходняй Германіі ядзернай зброі. Мінны атамны пояс уздоўж усходніх граніц ФРГ павінен быў узарвацца ў першы дзень вайны. А значыць, правакаваны ФРГ канфлікт адразу пераўтварыўся б у ядзерную вайну. Такой была б логіка падзей у выпадку стварэння шматбаковых ядзерных сіл ці атлантычных ядзерных сіл, аб якіх стараецца ФРГ.

Варшаўскае пасяджэнне Палітычнага кансультатыўнага камітэта дзяржаў — удзельніц Варшаўскага дагавору, аналізуючы істотнае становішча ў Еўропе, указала іменна на небяспеку, якая вынікае з далейшага ўзбраення ФРГ і павелічэння яе ролі ў НАТО. З Варшавы пачуліся не толькі галасы асцярогі і запэўнення, што ўзбраенне ФРГ ядзернай зброяй вымусіць членаў Варшаўскага дагавору прадпрыняць крокі, гарантуючыя ім бяспеку. Палітычны камітэт прадставіў урадам заходніх дзяржаў шэраг прапаноў, ажыццяўленне якіх умацавала б мір у Еўропе. Сярод гэтых прапаноў на першым месцы аказаліся польскія планы замарожвання атамнай зброі і прапановы аб стварэнні бязатамнай зоны ў Цэнтральнай Еўропе, а таксама прапанаваны міністрам Рапацкім на XIX сесіі ААН праект склікання канферэнцыі еўрапейскіх дзяржаў для абмеркавання мер, забяспечваючых калектыўную бяспеку ў Еўропе і ва ўсім свеце.

Апрача таго, Палітычны камітэт прадставіў прапанаваны ўжо раней Савецкім Саюзам праект заключэння пакту аб ненападзенні з дзяржавамі - членамі НАТО. Несумненна, такі пакт спрыяў бы аслабленню напружання не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце.

У адносінах да самай Германіі Палітычны камітэт прапануе згадзіцца на існуючыя граніцы і прыняць абедзвюм нямецкім дзяржавам абавязацельства не аснашчаць свае ўзброеныя сілы ядзернай зброяй і правесці мерапрыемствы па раззбраенню. Гэтыя крокі маглі б стварыць падставы для аб'яднання Германіі.

У інтарэсе міру на ўсіх кантынентах Палітычны камітэт прапануе таксама склікаць дзве нарады кіраўнікоў дзяржаў, з якіх першая (па прапанове Кітайскай НР) прыняла б рашэнне аб забароне прымянення ядзернай зброі і знішчэнне запасаў гэтай зброі, а другая пачала б канкрэтную дыскусію аб агульным і поўным раззбраенні.

У дваццатую гадавіну пачатку вялікага разгорнутага наступлення савецкай арміі, якое закончылася перамогай над фашызмам, з Варшавы раздаўся магутны голас, заклікаючы да ўмацавання пладоў гэтай перамогі, да міру.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**



А гавораць, што ў Іспаніі няма свабоды...
Мал. Кукрыніксы




### СПРАВАЗДАЧА ЗА 1964

Пад кіраўніцтвам новага старшыні аддзела БГКТ на горад Беласток Уладзіміра Куршэля 16 студзеня адбылося пасяджэнне прэзідыума. Прэзідыум заслухаў справаздачу з дзейнасці аддзела ў 1964 годзе, якую прачытаў Янка Дамброўскі. Прысутныя ў час дыскусіі над справаздачай многа гаварылі аб плане працы аддзела на бягучы год. Пастаноўлена да канца студзеня апрацаваць дакладны план дзейнасці на 1965 год і зацвердзіць яго на пасяджэнні аддзела.



**На здымку: новы старшыня аддзела Уладзімір Куршэль.**

### ЁЛКА Ў ПАМЯШКАННІ ГП

Гарадскі аддзел у Беластоку 17 студзеня сарганізаваў ёлку для дзяцей. У памяшканні ГП сабралася 123 дзяцей і значна больш бацькоў — членаў БГКТ. Дзеці пад гукі акардэаністаў (ігралі ўдзельнікі курсу акардэаністаў, які сарганізаваў аддзел) танцавалі розныя танцы. Найбольш папулярным быў «твіст». У час уручання пачак-падаркаў Дзедам Марозам дзеці выступалі з вершамі і песнямі і гралі на акардэоне.

### ВАЖАКІ ГУРТКА

Пасля апошняй нарады актыва БГКТ у Мілейчыцах з Сямяціцкага павета адчуваецца ажыўленне культурна - асветнай працы ва ўсіх гуртках. Вось, напрыклад, гурток БГКТ у Літвінавічах актыўней пачаў супрацоўнічаць з гуртком Саюза сялянскай моладзі. Старшыня гуртка БГКТ Мікола Куптэль і сакратар Аркадзь Навіцкі з'яўляюцца важакамі моладзі і выступаюць ініцыятарамі не толькі культурна - асветнай працы, але таксама арганізуюць грамадскія чыны і многа прысвячаюць увагі сельскагаспадарчай адукацыі. Зараз гурток БГКТ рыхтуе п'есу Янкі Купалы «Прымакі».



**На здымку: сакратар гуртка БГКТ у Літвінавічах, Аркадзь Навіцкі ў час рэпетыцыі.**

# КАНЦЭРТ

Ініцыятыва Нацыянальнай філармоніі ў Варшаве заслугоўвае на як найшырэйшую папулярызацыю. Камеральная эстрада гэтай філармоніі выступае менавіта са сваёй праграмай у гарадах і мястэчках усяе краіны. Між іншым 13.І.65 адбыўся канцэрт у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Бельску. Канцэрт слухачам з Бельскага ліцэя вельмі спадабаўся. (п)

Наша акцыя

# КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

Падарунак **Канстанціна Масальскага** з Фальваркаў Тыльвіцкіх, Беластоцкі павет:

М. Шолахаў — «Ціхі Дон»; E. Orzeszkowa — „Marta"; W. Biliński — „Bój"; Z. Wantoch — „Nan Lu"; M. Riffaud — „Pałeczki z Nefrytu"; H. Kowzan — „S.O.S. „Sollum" tonie"; J. German — „Opowiadanie o Feliksie Dzierżyńskim"; J. Kjellgren — „Ludzie przy moście"; W. Grochowski — „Las, źródło surowców"; K. Korcelli — „Dom na Twardej"; W. Wasilewska — „Oblicze dnia";

Падарунак **Ул. Дваракоўскага** з Бацютаў, Лапскі павет:

А. Пришвин — «Повести»; Я. Купала — «Паўлінка»; А. Твардовский — «Избранное»; Краткий словарь иностранных слов; А. Асеев — «Раздумья»; „Nike znad Oki" — wiersze żołnierskie; A. Mickiewicz — „Sonety Krymskie"; W. Grossman — „Stiepan Kolczugin" tom I-II; A. Słonimski — „Liryki" J. Tuwim — „Nowy wybór wierszy".




# ПАН ПРАФЕСАР СКАЧА

Школьны званок аб'явіў пачатак заняткаў. Вучні аднаго з класаў адной пачатковай школы ў Зялёнай Гуры на Заходніх землях нашай краіны выбеглі на прышкольную спартыўную пляцоўку. Распачаўся нармальны ўрок фізкультурнага выхавання. Паставілі вось папярочнік для скокаў угору. Пан прафесар ад гімнастыкі Эдвард Чэрнік паказвае вучням, як правільна трэба скакаць. Найлепш невялікая вышыня, каб вучні бачылі кожны рух ног і рук, а потым папярэчнік ідзе ўгору на 2 метры, на 2 м і 5 см, на 2,10 м.

Пан прафесар — гэта высокі мужчына, але скача яшчэ вышэй ад уласнага росту, можна было б сказаць, што пераскочыў сам сябе, а нават больш — змог бы пераскочыць найвышэйшага чалавека ў Польшчы.

Эдвард Чэрнік падымае папярэчнік яшчэ на 5 см. Вышыня 2 м і 15 см! Вучні глядзяць з затоеным дыханнем. Пан прафесар аднак лёгка бярэ і гэтую вышыню. Потым папярэчнік ідзе многа, многа ўніз. Скачуць вучні.

Вынікі, якіх дабіўся ў скоках угору скромны настаўнік Зялёнай Гуры, ставяць яго ў авангардзе еўрапейскіх скакуноў.

Эдвард Чэрнік сваю спартыўную кар'еру распачаў яшчэ ў педагагічным ліцэі ў невялікім гарадку Осне Любуске. Займаўся тады футболам (быў варатаром) і скакаў угору не многа больш, як за паўтара метра.

Пасля нейкага часу Эдвард Чэрнік перабраўся ў ліцэй у Зялёнай Гуры. Тут на рослага, добра збудаванага школьнага варатара звярнуў увагу трэнер Збігнеў Маеўскі. Стаў праводзіць з ім сістэматычныя трэніроўкі. У 1960 годзе Эдвард Чэрнік атрымаў атэстат сталасці і дыплом настаўніка, адначасова ўстанаўляе новы рэкорд Польшчы ў скоках угору. Бярэ вышыню 2 метры і 8 сантыметраў. Стадыёны ўсіх куткоў свету адкрываюць яму свае вароты. Расце яго слава.

Здавалася б, што маладому чалавеку нічога больш да шчасця ўжо не трэба. Ён аднак паглыбляе свае педагагічныя ўмеласці на завочнай настаўніцкай студыі, якую паспяхова заканчвае.

Эдвард Чэрнік хоча завочна вывучаць права. Яму цяпер 24 гады.



**На здымку: скача пан прафесар. Эдвард Чэрнік вучыць біялогіі, рысунку і фізкультурнага выхавання ў адной з зеленагурскіх школ.**



На здымку зверху: абарыген Ванжук.

# Забытыя кінутыя

Ёсць тэорыя, што карэнныя жыхары Аўстраліі — перасяленцы з Індыі. Гэтае перасяленне адбывалася многа тысяч год таму назад. Да часу каланізацыі Аўстраліі еўрапейцамі лічба аўстралійскіх абарыгенаў перавышала паўмільёна чалавек. Мовы плямён былі рознымі ,як і звычаі. Абарыгены, гэтае карэннае насельніцтва Аўстраліі, ніколі не былі ваяўнічымі, узброеныя сутычкі паміж плямёнамі наогул невядомы. Кожнае племя мела сваю долю паляўнічых і рыбалавецкіх угоддзяў альбо мірна дзяліла іх з другімі плямёнамі.

Сёння — усяго праз сто семдзесят пяць год пасля з'яўлення на кантыненце еўрапейцаў — лічба аўстралійскіх абарыгенаў паменшала прыблізна да сарака тысяч. Аднак такая ўжо ў гэтым народзе ўпартая і вытрымлівая сіла, што ў канцы канцоў іх лічба ізноў пачала расці. Між іншым, аб гэтым сведчаць лічбовыя даныя за апошняе дзесяцігоддзе. Сёй-той з белых перасяленцаў не толькі быў упэўнены, але і спадзяваўся, што абарыгенаў Аўстраліі чакае поўнае расавае выміранне. Цяпер ясна, што гэтага не будзе.

Вельмі нямногія чыстакроўныя абарыгены Аўстраліі карыстаюцца грамадзянскімі правамі. Толькі ў той частцы краіны, якая называецца Паўночнай Тэрыторыяй, ім дадзена права голасу на выбарах. Пераважная большасць жыве ў рэзервацыях — на спецыяльна вызначаных тэрыторыях, аддаленых ад малых і вялікіх гарадоў. Пісьменнасць сярод іх надзвычай малая і ні адзін з абарыгенаў не здабыў вышэйшай адукацыі. Толькі нямногія з іх маюць права ўступаць у арганізацыі прафесіянальных саюзаў, хаця часта яны выконваюць тую ж працу, што і белыя рабочыя. Таму і зарабляюць яны менш.

Доўгія гады цягнецца нялюдскае жыццё карэнных жыхароў вялікага аўстралійскага кантынента. І гэтая ганьба не дае спакою многім сумленным белым аўстралійцам. Узмацняецца націск перадавой грамадскасці на аўстралійскі ўрад: усё часцей чуваць патрабаванні аблягчыць лёс чорных людзей Аўстраліі. Самі абарыгены высоўваюць са свайго асяроддзя правадыроў, якія стойка змагаюцца за лепшую будучыню свайго народа — забытага, закінутага, паніжанага. (а-ся)



На здымку побач: дзяўчына Зямлі Арнхэм.

# ДВАЦЦАЦЬ ДВА ГАДЫ БЕЗ СНУ

У скромным сяле Благай (Герцагавіна) жыве селянін Франьё Мікуліч, які ўжо 22 гады не ведае, што такое сон. З імем гэтага 29-гадовага чалавека звязаны яшчэ дзве незвычайныя ўласцівасці: дзівосная памяць і здольнасць рабіць у галаве складаныя арыфметычныя падлікі. Але Франьё не быў такі ад нараджэння.

Вясной 1942 года, калі хлопчыку не было яшчэ сямі гадоў, блізка ад яго разарвалася ручная граната. Дзіця здранцвела са страху, потым кінулася дамоў. Вечарам ён дарэмна стараўся заснуць — сон не прыходзіў. Мінулі тыдні, месяцы, гады, але ён так і не мог заснуць. Урачы, якія абследвалі яго, сцвярджалі, што Франьё поўнасцю здаровы. Пачатковую школу ён скончыў без цяжкасцей, а потым заняўся звычайнай сельскагаспадарчай работай.

— Час зрабіў сваю справу, — гаворыць Франьё, — і за гэтыя 22 гады я прывык да бяссонніцы. Я зусім здаровы. Але я б схлусіў, калі б сказаў, што не адчуваю ніякай невыгоды: нялёгка ж праводзіць цэлыя ночы ў ложку без сну. Улетку мне лягчэй, асабліва, калі стаяць цёплыя ночы. Я гуляю, стараючыся не турбаваць сваіх дамашніх. Пасля такіх прагулак я адчуваю сябе гатовым заняцца работай. Як правіла, я амаль ніколі не адчуваю стомленасці.

У арміі Франьё аказаўся прыкладным салдатам і адслужыў увесь тэрмін. Праўда, цяжэй за ўсё яму было, калі надыходзіў час адбою, бо салдату ж належыць ноччу спаць. Прыйшлося расказаць пра сваю бяду начальству. Франьё быў бязмерна шчаслівы, калі яму дазволілі амаль кожны вечар заступаць на начное дзяжурства.

У Мікуліча фенаменальная памяць: без дапамогі алоўка і паперы ён выконвае чатыры асноўныя дзеянні арыфметыкі. Ён да гэтага часу памятае нумары вінтовак усіх салдат свайго ўзвода, хоць прайшло ўжо больш як сем гадоў пасля дэмабілізацыі. Камандзір узвода не раз правяраў яго памяць: браў вінтоўку і называў імя ўладальніка, а Франьё ўмомант адказваў: нумар такі вось — і ніколі не памыляўся. Мікуліч за некалькі секунд перамнажае ў галаве шасцізначныя лічбы.

— Я чуў, — гаворыць Франьё, — што хтосьці паставіў сусветны рэкорд, даволі хутка разлічыўшы на дзве тысячы гадоў наперад, калі наступяць высакосныя гады, вызначыў даты вялікіх свят. Я не ведаю, да каго звярнуцца, але ўпэўнен, што магу лёгка пабіць яго рэкорд і за кароткі час разлічыць у галаве ўсе гэтыя даты не на дзве тысячы, а на дзесяць тысяч гадоў наперад. У календары-стагодніку я ўжо выявіў каля 30 буйных памылак.

Свае здольнасці Франьё Мікуліч звязвае з трагічнай падзеяй, якая назаўсёды пазбавіла яго сну. Да таго часу ён нічым не адрозніваўся ад сваіх равеснікаў.

## ПАПРАЎКА ДА „КАЛЕНДАРА НІВЫ"

У выніку тэхнічнага недагляду ў сёлеташнім календары „Нівы» не знайшліся некаторыя праваслаўныя святы. Просім прабачэння. Адначасова падаем прапушчаныя святы і просім іх самім нанесці ў наш каляндар. Святы падаем па старому і новаму (у дужках) стылях:

Вялікдзень — 12(25) красавіка; Уваход Гасподні ва Іерусалім — 5(18) красавіка; Узнясенне Гасподне — 21 мая (3 чэрвеня); Пяцідзесятніца або Сыйсцё Св. Духа на Апосталаў — 31 мая (13 чэрвеня).

# Васіль Ардамацкі „Я 11-17"

На пошце было шмат людзей. Дзяменцяў прыйшоў сюды за гадзіну да вызначанага тэрміну: хацеў паглядзець, як Павел Арвідовіч будзе весці сябе, чакаючы сустрэчы. А галоўнае, Дзяменцяў баяўся правакацыі. На вуліцы нічога падазронага ён не прыкмеціў. Нічога падобнага на тое, што рыхтуецца засада, ён не выявіў і тут. За сталом, дзе людзі пісалі тэлеграмы, Дзяменцяў выбраў месца, адкуль яму адкрывалася амаль уся зала пошты і выхад на вуліцу. Купіўшы паперу і канверт, ён пачаў пісаць пісьмо ў Берлін, дарагой і каханай сваёй жонцы Лізэце. Самае здзіўляючае было тое, што, калі б хто-небудзь вырашыў высвятліць, ці існуе ў Берліне, па адрасу Александрплац 4, кватэра 15, такая Лізэта, ён не там выявіў бы. Больш таго, яна сказала б, што ўжо даўно чакае пісьма ад свайго мужа, Паўля Руперта.

Паўла Арвідовіча Дзяменцяў пазнаў адразу. Той, абыйшоўшы залу, спыніўся ля кіёска, дзе ўвесь час таўкліся людзі.

Схаваўшы недапісанае пісьмо ў кішэню, Дзяменцяў устаў і падыйшоў да кіёска. Стары каўзануў па ім насцярожаным позіркам, але, відавочна, начнога госця не пазнаў. Купіўшы некалькі газет, Дзяменцяў

18

працягла паглядзеў на старога:

— Вы, здаецца, гаспадар кватэры, дзе жыве ваенны лекар Нельке? Я не памыляюся?

— Ну, як ён там? Жывы, здаровы? Ён цяпер дома?

— Так, гэта я, — адказаў стары.

Дзяменцяў пытаў голасна, каб усе чулі, аб чым яны гавораць. — Вы йдзеце дамоў? Ідзеце, я хачу пабачыць вашага кватаранта.

Не даючы старому апамятацца, Дзяменцяў узяў яго пад руку, і яны выйшлі на вуліцу.

— Налева, за вуглом, кафэ «Месяц», — ціха сказаў стары. — Зайдзіце туды праз дзесяць мінут.

— Добра, — таксама ціха сказаў Дзяменцяў і пайшоў наперад.

Ён прайшоў міма кафэ, аб якім сказаў стары, дайшоў да скрыжавання, пастаяў там і пайшоў назад.

У кафэ было пуста. Дзяменцява здзівіла нявопытнасць гаспадара яўкі. Ну чаму ў пустым кафэ нямецкі афіцэр павінен падсядаць да століка, які заняты старым цывільным пацуком? На гэта адразу могуць звярнуць увагу. Але іншага выйсця не было. Дзяменцяў падыйшоў да століка, за якім сядзеў Павел Арвідовіч:

— Можна за ваш столік?

— Калі ласка...

Калі Дзяменцяў сеў і ўзяў меню, стары ціха сказаў:

— Не хвалюйцеся, гэта месца надзейнае. Гаспадар кафэ — наш чалавек... Дык вось. Мая кватэра цяпер для вас не прыдасца. Я вымушаны быў узяць афіцэра. У дамах, якія паблізу штаба, яны жывуць амаль у кожнай кватэры.

— Хто ваш кватарант?

— Гестапа.

— Ясна. А што робіце вы?

— Нічога. Сувязі ўжо няма трэці месяц.

— Не сумуйце. Я ведаю, якую карысць вы прынеслі нашай арміі. Дзякую вам. Мне вы не патрэбны. Я прыду да вас толькі па рацыю. Яна цэлая?

— Зразумела!.. Каб вы з'явіліся месяц раней, — вінавата пачаў стары, — як добра можна было б усё

19

ўладзіць! Я бы здаў вам кватэру — і шыта-крыта.

— Не, усё роўна гэтага зрабіць было нельга. У мяне зусім іншы план. Прашу вас аб адным — падрыхтуйце рацыю. Я зайду да вас нібыта шукаючы кватэры... Да пабачэння.

Дзяменцяў прыступіў да пошукаў кватэры. У ціхім завулку непадалёку ад порта ён увайшоў у пад'езд аднаго дома, падняўся на другі паверх і спыніўся перад дзвярыма ў кватэру нумар пяць. Націснуў гузік званка. Дзверы тут жа адчыніліся.

— Каго вам? — спытаў мужчына ў халаце.

— Не каго, а што, — усміхнуўся Дзяменцяў. — Мне патрэбны пакой.

— Але...

— Не спяшайцеся гаварыць «але», цяпер не той час, калі афіцэры райха могуць спакойна гэта слухаць. — Адпіхнуўшы мужчыну, Дзяменцяў прайшоў у дзверы і зачыніў іх.

— Выслухайце мяне, пане оберст... — Чалавек у халаце ўжо прасіў.

— Ну, ну... — Дзяменцяў разгледжваў раскошную кватэру.

— Мая кватэра не падлягае засяленню. Дастаткова высокі чыноўнік гестапа, пан Мельх, у выпадку чаго, дазволіў мне паклікацца на яго. Давайце пазвонім яму па тэлефону.

— З гэтага і трэба было пачынаць! — Дзяменцяў выйшаў на лесвіцу.

«З пакоем не выйшла, але затое мы ведаем цяпер аб існаванні нейкага Мельха, які займаецца кватэрамі. Можа спатрэбіцца...» З гэтай думкай Дзяменцяў падняўся на пляцоўку другога паверха іншага дома. Перад ім дзверы з таблічкай: «Песіс А.» Дзяменцяў націснуў гузік. Дзверы адчыніла сімпатычная дзяўчына. Убачыўшы нямецкага афіцэра, яна зрабіла крок назад і крыкнула:

— Мама!

Дзяменцяў, не раздумваючы, увайшоў у кватэру і

20

